

# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

ISSN 0132-5957

№ 4 (красавік) 2014

Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Дзе старты, там і жарты**

*Спартыўны спецвыпуск*

**Білет на той свет**

*Памфлет*

**Дача з аддачай**

*Карыкатуры*

# Цёмныя ЗАХАДы










Малюнкі Міколы ГІРГЕЛЯ.



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

Пентагон усё ж пачаў навукова-даследную работу па стварэнні аўтаномных баявых робатаў. З часам на «чырвоную кнопку» будзе націскаць не чалавек, а машына.

*(З газет.)*




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

ІГОЛКАТЭРАПІЯ

## ВІНА ЗА ВІНО

***Маладзечна.*** Не сакрэт, што алкагольныя напоі выклікаюць у людзей розныя пачуцці. Нехта адчувае асалоду і радасць, нехта — агіду, а нехта зусім раўнадушны да іх.

А вось адказныя асобы мясцовага прыватнага прадпрыемства адчулі... віну. І нездарма: супрацоўнікі фінансавай міліцыі знайшлі на складзе фірмы 18 тысяч бутэлек віна без належных дакументаў і акцызных марак.

Цяпер на ўсю нелегальную партыю коштам 173 мільёны рублёў накладзены арышт, вядзецца праверка. А правапарушальнікі засталіся і вінаватымі, і без віна.

## ДРУГОЕ ЖЫЦЦЁ

***Ваўкавыск.*** Чаго толькі ні знойдзеш на балконах, у кладоўках і ў гаражах! Тут сустракаюцца рэчы з мінулага, з цяперашняга і нават з будучага часу. Зірнеш — і адкрываецца другое жыццё іх уладальнікаў.

Так, у гаражы аднаго мясцовага жыхара правяраючыя ўбачылі сапраўдны склад. Там ляжалі дзіцячыя каляскі, санкі, кухонны посуд... Тавары ацэньваюцца амаль у 100 мільёнаў рублёў. Міліцыянеры мяркуюць, што яны былі ўвезены з Польшчы і прызначаліся для далейшага продажу.

Якая будучыня чакае запаслівага гаспадара гаража-склада і чым для яго абернецца «другое жыццё», пакажа следства.

## «КОНЕБІЗНЕСМЕНЫ»

***Кобрынскі раён.*** У нашай свядомасці заўсёды існуюць пэўныя агульнапрынятыя стэрэатыпы. Напрыклад, што ўкраінцы не могуць жыць без шматка сала, беларусы — без бульбы, а ўсе цыганы ўмеюць варажыць і пры любой магчымасці крадуць коней.

Але стэрэатыпы часта бываюць зманлівыя. У гэтым упэўніліся супрацоўнікі Кобрынскага міжраённага аддзела фінансавых расследаванняў, калі даведаліся пра незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць трох мясцовых жыхароў. На працягу двух гадоў яны займаліся перапродажам коней. Спачатку закуплялі іх ва Украіне, а потым прадавалі ў Расію, Беларусь, Казахстан. Незаконны даход перавысіў 600 мільёнаў рублёў.

Зараз «конебізнесменам» пагражае да сямі гадоў зняволення. Цікава, ад якіх стэрэатыпаў яны могуць пазбавіцца ў турме?..

***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




*Будучыня — гэта тое, насустрач чаму кожны з нас набліжаецца з хуткасцю 60 хвілін у гадзіну.*

Клайв Льюіс
(англійскі вучоны-філолаг)




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Зрэзаў дубчык, а сказу на бервяно.

Быў і певень куранём.

Іншае імгненне даражэйшае за год.

Па вадзе прайшоў, а сляды пакінуў.

Таямніца таямніцу насіла, пакуль рот не раскрыла.

Пайшоў бы прама, але збоку вецер.

Здаецца, рэдкі лужок, ды і ён даў сена стажок.

Прычасалі лысага гады.

Лепш рыбцы плаваць мелка, чым ляжаць у талерцы.

Злодзей і ёсць злодзей, хоць цвік украў, хоць сякеру.



І Антончык — Антон, калі мае мільён.

Не са срэбра сівізна, але шмат каштуе яна.

**Барыс БЕЛЕЖЭНКА,**
*г. Віцебск.*

Найразумнейшы чалавек на свеце — ты. Найдурнейшы — твой начальнік.

З бюракратамі трэба змагацца бюракратычнымі метадамі.

Шчаслівы шлюб: адзін храпе, другі не чуе.

Жанчыне з прыгожымі зубамі ўсё здаецца смешным.

Варта толькі напісаць ліст, як адразу хочацца яго перапісаць.

Усё было так добра, пакуль не стала так кепска.

За двума зайцамі пагонішся — абодвух і... зловіш.

Не капай ворагу яму: ён можа скарыстаць яе як акоп.

Не плюй у калодзеж: не на таго трапіш.



**Язэп ПАЛУБЯТКА,**
*г. Мінск.*




У мяне шмат імён. У розныя часы і пры розных абставінах мяне называлі: скон, гібель, труна, апошні ўздых, кашчавая, чэткер, бязносая, чорны анёл, Танатос, апошняя гадзіна, старая з касой (ці з кульбай), касая, Навь, вечны спакой. Але часцей за ўсё — Смерць.

Ведаеце, я шмат чаго наслухалася і ўбачыла за сваё існаванне. Адны людзі ўсімі магчымымі спосабамі стараліся мяне пазбегнуць, другія — наадварот — прасілі, каб я хутчэй прыйшла, трэція не звярталі на мяне асаблівай увагі і спадзяваліся на выпадак, чацвёртыя старанна шукалі сустрэчы са мной...

Я ж увесь немалы век сябравала з Лёсам. Менавіта з ім мы заўсёды вырашалі, у які час і пры якіх абставінах я прыйду да чалавека. Але мой сябра вельмі непастаянны і часта мяняе свае рашэнні. Узважвае ўсе ўчынкі чалавека і вырашае, патрэбны яму яшчэ адзін шанец ці не.

Але зараз мне хацелася б пагаварыць пра іншае. У апошні час у мяне прыбавілася багата працы. А ўсё з-за чалавечага глупства і дурасці. Я ўжо даўно зразумела, што людзі — слабыя істоты. Невядома навошта яны цягнуцца да рознай распусты, якая набліжае іх час сустрэчы са мной.

Адна з іх — наркотыкі. Я назірала за гісторыяй іх стварэння, ведаю, як яны ўздзейнічаюць на людзей, магу нават прадказаць, праз колькі часу сустрэнуся з тымі, хто іх ужывае.

Нядаўна з'явіліся новыя наркатычныя сродкі. Людзі называюць іх «маркамі». А на маю думку, іх трэба назваць «білетамі на той свет». Яны ў сто разоў мацнейшыя за гераін і ў тысячу разоў больш небяспечныя. Між іншым, карыстаюцца неверагоднай папулярнасцю сярод моладзі.

І няхай мне, можа, і шкада забіраць з гэтага свету людзей, якія толькі-толькі пачалі жыць, але даводзіцца. Яны самі абралі гэты шлях, самі зрабілі крок насустрач да мяне. Лёс яшчэ змагаецца, не ўсіх пачынаючых і ўжо аматараў «марак» дапускае да мяне, але яго цярпенне не вечнае.

Падумайце самі. З пачатку гэтага года мне давялося забраць да сябе з аднаго толькі горада Мінска сем чалавек узростам ад 18 да 24 гадоў. Усе яны ўжылі «марку» аднаго і таго ж віду (на плошчу 1х2 см было нанесена толькі каля 0,0234 грама сінтэтычнага наркотыка). На «білеце на той свет» была змешчана выява чырвонага д'ябла. Іх нават гэта не спыніла...

«Маркі» адмоўна ўплываюць не толькі на фізічнае здароўе, але і на псіхалагічны стан чалавека. У 2010 годзе ў сталіцы таксікалагічную дапамогу пасля ўжывання сінтэтычных наркотыкаў атрымалі 10 пацыентаў з вострым псіхозам. У 2013 годзе — ужо 380! Толькі за студзень 2014 года такіх выпадкаў зарэгістравана 37, а за люты — 81. Дзясятая частка з іх прыпадае на школьнікаў, а палова ўсіх, хто звярнуўся па дадзенай праблеме ў бальніцу — моладзь да 25 гадоў...

Вядома, вы, людзі, імкнецеся змагацца з гэтым дурманам. Міліцыянеры шукаюць наркадылераў, тых, хто ўжывае і распаўсюджвае наркотыкі, затрымліваюць іх, тым самым пазбаўляюць мяне вялікай часткі працы. Напрыклад, зусім нядаўна арыштавалі 37-гадовага мінчаніна, што «варыў» гэта зелле і займаўся продажам «спайсаў» і «марак». Быў знойдзены тайнік, у якім захоўваліся амаль дзве тоны курыльных «міксаў» і спецыяльнае наркатычнае рэчыва для прамочвання «марак». Такой колькасці хапіла б для вырабу двух мільёнаў «білетаў на той свет» — на ўвесь Мінск! І хто ведае, колькі людзей мне б давялося забраць з сабой. Гэты мінчанін — пачварны памагаты чырвонага д'ябла — знаходзіцца цяпер пад следствам.

Што я хачу вам урэшце сказаць? Людзі, не спяшайцеся са мной сустракацца, пажывіце яшчэ на гэтым свеце! Тут ёсць шмат чаго цікавага. Жывіце рэальнасцю, а не аддавайцеся свету дурману і наркотыкаў. Памятайце: білет на той свет у кожнага мае сваю дату і не варта яе пераносіць на больш ранні тэрмін...

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**



**Мікалай ГЛЕБ**

# Дыягназ

### Іранеска

Галоўны ўрач ідзе па бальніцы і сустракае маладога калегу, які нядаўна пачаў тут працаваць.

– Ну, як справы? – цікавіцца начальнік.

– Пацыента новага прывезлі...

– І што вы даведаліся? Які дыягназ?

– Я ўстанавіў, што ў яго вялікі двухпавярховы асабняк за горадам. І машына каштуе не менш чым сто тысяч долараў! – бойка адрапартаваў навічок.

– Малайчына! Вось як трэба працаваць, – аж расцвіў галоўурач. – Праз месяц будуць перавыбары майго намесніка: рыхтуйся на яго месца...

*г. Ляхавічы.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Алега ПАПОВА.

## Афарызм

*Калі б рэкламадаўцы выдаткоўвалі на паляпшэнне сваёй прадукцыі тыя грошы, якія яны выдаткоўваюць на рэкламу, іх прадукцыя не мела б патрэбы ў рэкламе.*

Уіл Роджэрс
(амерыканскі пісьменнік, акцёр)

**Сяргей ЛАПЦЁНАК**

## Мініяцюры



Я не лячу наперад з голай шабляй,
Бо маю пэўны вопыт. Дык чаму
Не абмінуць і сёння тыя граблі,
Што білі моцна шмат гадоў таму?

* * *

Смачнейшы быў за калачы
Матулін хлеб – духмяны, свежы.
А мы... Не тое, каб пячы, –
Дык самі нават і не рэжам.

* * *

Калі кахаеш, мусіш быць аддан
Свайму каханню ў шчасці ці журбе.
А самы верны сярод закаханых –
Той, хто гатоў заўжды любіць сябе.

* * *

Ні сівізны, ні зморшчын не баюся.
Жыву з надзеяй – вось адказ гадам.
Не маладзён, якім сабе здаюся,
Дый не стары, як падаюся вам!

*г. Мінск.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

## АНЕКДОТ

Журналіст пытаецца ў сусветна вядомага трэнера:

– Як вы ўяўляеце вобраз ідэальнага футбаліста? Якімі якасцямі ён павінен валодаць?

– Высокая самадысцыпліна, строгае захаванне рэжыму, выкананне ўсіх указанняў трэнера, лаяльнасць да саперніка, павага да арбітраў, пачуццё таварыства…

– Але такіх ігракоў вельмі мала!

– Ды колькі заўгодна! Але ў іх ёсць адзін значны недахоп: яны не ўмеюць гуляць у футбол.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.

## Каб і хацеў — не прыдумаеш!

«Як паведамілі ў жыллёва-камунальным упраўленні, праз тыдзень з кранаў грамадзян, якія скардзіліся, пабяжыць гарачая вада».

*(З заметкі ў газеце.)*



«Адшукваецца пасажырка аўтамабіля «Рэно Меган-Сцэнік» сіне-зялёнага колеру, высокая, на выгляд гадоў 30–35, валасы светлыя».

*(З аб'явы.)*

«Гэта была шэравокая дзяўчына з чорнымі, як смоль, вачамі».

*(З успамінаў.)*

«Хаця тратуараў у нас няма, чысцім мы іх рэгулярна».

*(Са справаздачы.)*




«Прапала шкатулка з ювелірнымі вырабамі, якія належаць заяўніцы, што знаходзілася на паліцы лесвічнага пралёта, які вядзе на другі паверх домаўладання».

*(З пратакола.)*

**Выпісаў Міхась КАВАЛЁЎ,**
*г. Рагачоў.*

# Весела і ўзрушана пяе Людміла Юшына!




*Пастаянным чытачам «Вожыка» даўно палюбілася творчасць Людмілы ЮШЫНАЙ – аўтара з выдатным пачуццём гумару, якое лепш за ўсё праяўляецца ў прыпеўках і прыдумках, што з зайздроснай рэгулярнасцю друкуюцца на старонках нашага часопіса. Сёння ў вас ёсць магчымасць бліжэй пазнаёміцца з сапраўдным народным талентам, узгадаваным на багатым беларускім фальклоры.*

*Мастацтвам Людміла захапілася яшчэ ў дзяцінстве. Як сама прызнаецца, расла «весялухай і паскакухай», любіла музыку і спевы, удзельнічала ў разнастайных самадзейных гуртках. Выхоўвалася дзяўчынка ў Дзятлаўскім дзіцячым доме № 1 (маці памерла, калі Людзе споўніўся ўсяго годзік), скончыла сямігодку, пасля – Навагрудскі фінансавы тэхнікум. Аднак у марах бачыла сябе не фінансістам, а настаўніцай. Таму, ужо працуючы ў Гомелі, дзяўчына давучвалася ў вячэрняй школе, каб паступіць у педагагічны інстытут. Але лёс склаўся іначай: неўзабаве выйшла замуж і нарадзіла сына.*




Гаспадар-мужчына ў хаце –
Даражэйшае багацце.



☺ ☺ ☺

Хто нос не вешае, не ные і не плача,
Таму спрыяюць зоркі і – удача.

☺ ☺ ☺

Дачнік без рыдлёўкі,
Як паляўнічы без дубальтоўкі.





Гарэлка на стале ніяк не скісне:
Хоць кропель пяць, але заўсёды ўціснем.





Хто шануе гумар, жарты,
Не бывае злы і ўпарты,
Той людской павагі варты.







Каб не пазяхалі мужы пад бачком,
Частуйце сваіх палавін кумпячком!








Мяне маці гадавала
На аладках, малацэ,
Каб прыпеўкі я спявала
Звонка, з бубнам у руцэ!



Мілка полечку скакала,
Паслізнулася ды ўпала.
Кінуліся памагаць –
Не змаглі ўпяцёх падняць!



*Нягледзячы на ўсе жыццёвыя цяжкасці і перыпетыі, Людміла Іванаўна не страціла аптымізму, а галоўнае – не здрадзіла сваёй чулай паэтычнай душы, якая імкнулася да творчасці, да сцэны, да ўдзячных гледачоў і слухачоў. Земляні ведаюць Людмілу Юшыну як вядучую канцэртаў, фальклорных фестываляў, як выканаўцу і дэкламатара. Аднак некаторыя нават не здагадваюцца, што яна з'яўляецца аўтарам тэкстаў і музыкі многіх песень. У творчай скарбонцы паэткі – жартоўныя вершы і паэмы, байкі, тэатралізаваныя сцэнкі, жарты, тосты і, вядома ж, прыпеўкі – усяго каля дваццаці тысяч! Многія з іх гучалі са сцэны розных гарадоў не толькі Беларусі, але і Расіі ды Украіны.*

*Л. Юшына – тройчы «народная артыстка». Яна абараняла званне «народнай» у трох ансамблях: «Веткаўчанка», «Гамяльчанка» і «Вясёлыя музыкі». З апошнім ансамблем прыпевачнікаў і гарманістаў артыстка заваявала гран-пры Рэспубліканскага свята гарманістаў, што праходзіла ў Мінску ў 1996 годзе; вяла праграму гэтага калектыву і спявала ўласныя прыпеўкі.*

*Яшчэ адно захапленне Людмілы Юшынай – вышыванне крыжыкам. У яе «скарбонцы» – шматлікія карціны, сурвэткі, ручнікі, абрусы, якія ўпрыгожваюць кватэру артысткі і радуюць вока родным ды сябрам. (Дарэчы, на фотаздымку Л. Юшына ў канцэртным касцюме, аздобленым уласнымі рукамі.)*

*Цяпер Людміла Іванаўна знаходзіцца на заслужаным адпачынку, аднак справы, якой аддала ўсё жыццё, не кідае. Яе прыродная назіральнасць, уменне знаходзіць паэзію і гумар у самых простых рэчах – вось сакрэт нараджэння вясёлых, дасціпных твораў. Нездарма Л. Юшына – адна з пераможцаў конкурсу, прысвечанага 70-годдзю часопіса «Вожык» (праводзіўся сумесна з Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі).*

*Атрымлівайце чарговую порцыю пазітыву, якім шчодра дзеліцца гэтая жыццярадасная жанчына і таленавіты аўтар!*

* * *

Ты не лай мяне, Даніла,
Што я круглая на твар.
Маці салам раскарміла,
Ды ў душы маёй пажар!



* * *

Калі маеш інтарэс
Да мяне любоўны,
То купі мне «мерсэдэс»
І букет шыкоўны.

* * *

Стала зараз вельмі модна
У любоў гуляць свабодна.
Хлопцам гэтая свабода
І «халява», і выгода.



* * *

Пада мной рыпяць масніцы
І зямля ажно гудзе.
Весялейшай маладзіцы
Вы не знойдзеце нідзе.



* * *

Ой, дзяўчаты, маладзіцы,
Як жа вас не пакахаць?
Вы так носіце спадніцы,
Што каленачкі відаць!



* * *

Мой мілок – сапраўдны «мачо»:
Тэмпераментны, гарачы...
А як стане цалаваць –
Аж у Кіеве чуваць!




* * *

У бабулек і дзядоў
Ёсць такая версія,
Што сапраўдная любоў
Даражэй, чым пенсія.

* * *

Адшукайце мне дзяўчыну,
Каб не мерз я ў халады,
Каб была ў яе машына
І «зялёных» тры пуды!

* * *

Як на гомельскім базары
Прадаюць мужчын вазамі.
А нашто мне цэлы воз,
Калі дома свой п'янтос?

* * *

У мяне мілёнак – злыдзень,
Абдымаць лянуецца.
Ён са мною раз на тыдзень,
Абібок, цалуецца.

* * *

Я не буду гараваць,
Што малога росту.
Буду танчыць і спяваць
Аж да дзевяноста!



* * *

У вясёлай, жвавай кумкі
Не адно пра мёд прыдумкі.
Мне не сорамна прызнацца,
Што дагэтуль хлопцы сняцца!

* * *

Дзядзька Стась гарох вартуе,
Ад зладзюг яго ратуе.
Столькі дрыхне, аж апух –
Праспаў стрэльбу і кажух.

* * *

Я жанчынка – ого-го!
Ды кахаю не таго.
А каб мне таго далі,
Не было б і спаць калі.





* * *

Няўжо Петра не дапетра:
Як і чым душу ні цеш,
Без дзяўчат, як без паветра,
Аніяк не пражывеш.




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.




Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Міхась СЛІВА**




Адзначалі юбілей інжынера Бярозкіна. Першы тост, як звычайна, сказаў дырэктар нашага завода Аркадзь Анісімавіч. Пахваліў Бярозкіна за шматгадовую добрасумленную працу, пажадаў шчасця, здароўя.

Потым юбіляра віншавалі галоўны інжынер, старшыня прафкама... Нарэшце чарга дайшла да Васюкевіча, калегі імянінніка. Той чакаў з нецярплівасцю, бо баяўся, што возьме яшчэ адну-дзве чаркі — і прападзе яго дар красамоўства.

— Шаноўны Іван Пятровіч! — звярнуўся ён да Бярозкіна, асцярожна трымаючы ў руках, каб не расплюхаць, з берагамі налітую чарку. — Мне ёсць што сказаць пра цябе ў гэты ўрачысты і хвалюючы дзень. Мы даўно працуем разам. Хаця я прыйшоў значна раней на завод і больш папрацаваў, больш ведаю і ўмею. Ты, паважаны Іван Пятровіч, як і я, не шкадаваў асабістага часу і сіл для выканання заданняў кіраўніцтва. Тут, прама скажам, ты заўсёды браў прыклад з мяне, а я шчодра дзяліўся сваім багатым вопытам. І ніколі не патрабаваў, каб ты пачаставаў мяне ў кафэ або, на крайні выпадак, наліў чарку дзе-небудзь у скверы, па дарозе дадому. Усе адзначаюць тваю бескарыслівасць, сціпласць. Гэтыя выдатныя якасці ты таксама пераняў ад мяне, чалавека выхаванага і сарамлівага... З юбілеем, даражэнькі! — і Васюкевіч залпам асушыў сваю чарку.

*г. Рагачоў.*




**«Эх, мне б так!** Красуйся цэлы дзень на вітрыне, грэйся на сонейку, за людзьмі назірай, сябе паказвай... Хоць што тут паказваць? Адна скура ды косці!..»

«А вось у гады маёй маладосці дзяўчаты ў адной бялізне ў вокнах не свяціліся!..»

«Вось бы і мне так сесці за шклом! Але, відаць, спачатку давядзецца сесці на дыету...»

А што, на ваш погляд, падумала жанчына справа пра «жанчыну» злева?.. Дарэчы, здымак я зрабіла ў адным з брэсцкіх магазінаў.



**Кацярына ШЧАСНАЯ,**
*г. Мінск.*

**У век бізнесу і прадпрымальніцтва** кожны зарабляе як можа і на чым можа. Я і сам мару распачаць сваю справу, але пакуль што не ведаю, чым мне заняцца. Шукаю ідэю, якая вылучыць мяне сярод іншых.

Нядаўна натрапіў на адну амерыканскую кампанію, якая вырабляе тавар пад маркай «Real Shit». Вытворцы не толькі адкрыта заяўляюць пра тое, што гандлююць гноем, але яшчэ і ганарацца гэтым. «Real Shit» прадаецца ў герметычных бляшанках, якія захоўваюць усе ўласцівасці свежага гною.




Цяпер я ўпэўнены, што ў гэтым свеце можна прадаць усё, што заўгодна. Галоўнае — «уключыць» фантазію і... знайсці пакупнікоў.

**Уладзімір КАБАН,**
*г. Магілёў.*

## АНЕКДОТ

— Ужо тыдзень хачу рабіць ранішнія прабежкі. Кожны вечар пачала заводзіць будзільнік на шэсць гадзін раніцы. Першыя некалькі дзён я яго нават не чула. Але зараз знаходжу ў сабе сілы ўстаць і выключыць. Пытанне: праз колькі дзён я пачну бегаць?






Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.



# Малюе Пётр КОЗІЧ

















Два альпіністы з апошніх сіл дабіраюцца да вяршыні, садзяцца перакурыць. Адзін пытаецца ў другога:

– Ну, як у цябе з тым варыянтам абмену кватэры?

– Адмовіўся. Што я, дурань – на пяты паверх і без ліфта?!



– Дарагая, будзеш глядзець фігурнае катанне?

– Буду! А хто ўдзельнічае?

– «ЦСКА» і «Манрэаль»!

**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**




Бацькам сюрпрыз трывожны, нечаканы:
Прыйшоў са школы сын дадому п'яны.
Праспаўся – і праз слёзы растлумачыў:
– Я, тата, твайго сябра ўчора бачыў.
Знаёмства новае абмыць ён нас падбіў,
Расшчодрыўся – гарэлкі ўсім купіў.
– Якога сябра? – бацька чырванее
І робіць выгляд, што не разумее.
– Ну як жа? Дзядзька Мікалай, той самы,
З якім пілі вы ў сераду ля крамы...

Зайшоў сусед да бацькі адвячоркам,
Пачаставаў «фірмоваю» махоркай:
– Што ні кажы, а цыгарэтка – рэч,
Курнуў – нібы гара упала з плеч.
А бацька – ў тон: «І дня б не змог пражыць,
Калі б забаранілі мне курыць!»
Праходзіць час – паволі, пакрысе
Малодшы сын ўжо недакурак ссе...

Дазнаўся бацька – і крычыць наўкола:
– Што з дзецьмі робіць вуліца і школа?
– Навошта вінаватага шукаць? –
Пакпіў з яго другі сусед, Валерка. –
Ты паспрабуй спачатку проста стаць
І... паглядзецца у люстэрка.



**— Трымайся, братка, хутка мы цябе выратуем!**

Малюнак Аляксандра БУЛАЯ.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Міхася ДАНІЛЕНКІ, тэма Міхася КАВАЛЁВА.




*Калі табе патрэбны грошы, ідзі да чужых; калі табе патрэбны парады, ідзі да сяброў; а калі табе нічога не трэба, ідзі да сваякоў.*

Марк Твэн
(амерыканскі пісьменнік)

# Дзе старты, там і жарты

*Шаноўныя сябры!* Неўзабаве ў «Бібліятэцы «Вожыка» стане на адну кнігу больш. У РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» пабачыць свет зборнік сатыры і гумару «Вясёлыя старты».

У кнігу ўключаны лепшыя гумарыстычныя творы розных жанраў вядомых беларускіх пісьменнікаў, а таксама жартоўныя малюнкі майстроў айчыннай карыкатуры на спартыўную тэматыку. І хаця спорт – справа сур'ёзная, але ў ім, як і ва ўсіх сферах жыцця, нямала смешных эпізодаў, нечаканых кур'ёзаў, недарэчных сітуацый. Яны выклікаюць добрую ўсмешку і ў саміх спартсменаў, і ў аматараў спорту, ды і ва ўсіх нас.

У выданні ёсць спецыяльны раздзел для маленькіх чытачоў – «Урок фізкультуры». У ім змешчаны вясёлыя вершы, мініяцюры, загадкі, малюнкі.

Нашай краіне выпаў гонар прымаць у 2014 годзе Чэмпіянат свету па хакеі з шайбай. Зубр Волат (афіцыйны талісман чэмпіянату) гасцінна сустрэне ігракоў 16-ці нацыянальных каманд з Еўропы, Паўночнай Амерыкі і Азіі. Спадзяёмся, што ім спадабаецца Беларусь і яны спаўна адчуюць смак перамогі.

«Вожык» падтрымае бадзёры спартыўны дух ігракоў і балельшчыкаў вясёлымі творамі ды малюнкамі. Любіце спорт, не забывайцеся ўсміхацца і будзьце здаровымі!






Генадзь АЎЛАСЕНКА

## ПРА КАРЫСЦЬ ЗДАРОВАГА ЛАДУ ЖЫЦЦЯ

*Паўжартоўныя парады*

Добра ўсё ж здаровым быць
круглы год: зімой і летам!
Не хварэць ні тым, ні гэтым,
лекі горкія забыць.
Ды здароўе да пары,
а затым яно знікае.
І замест яго чакаюць
нас хваробы, дактары...
Быць здаровым ці не быць?
Гэта ўсё ад нас залежыць!
Толькі што ж рабіць належыць,
каб здароўе не згубіць?
Каб яго нам захаваць,
каб усё было ў парадку,
трэба з ранішняй зарадкай
аж з маленства сябраваць.
І са спортам сябраваць,
плаваць, бегаць вечарамі...
У футбол гуляць з сябрамі,
на байдарках веславаць.
А яшчэ, сябры мае,
трэба ладзіць турпаходы...
Беларуская прырода
шмат здароўя нам дае!
І яшчэ хачу сказаць
(не магу маўчаць пра гэта!):
хто сябруе з цыгарэтай –
з ёю лепей завязаць!
Што карысці ў дыме тым?
Гэта брыдкая атрута
прынясе адны пакуты!
Лепей спорт, чым горкі дым!

* * *

Тут не будзе адкрыцця,
як скажу: «Гадоў за дзвесце
пражывеш, як будзеш весці
ты ЗДАРОВЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ!»

Павел САКОВІЧ

## Завочна вінаватая

*Байка ў прозе*

На спартыўных спаборніцтвах вінтоўка «прамазала» па мішэні. Адразу пасля гэтага адбыўся сход усіх частак зброі.

– Што датычыць мяне, – пачаў старшыня сходу затвор, – то я даслаў патрон куды трэба: у патроннік.

– А я, – бойка сказаў ударнік, – працаваў, як заўсёды, па-ўдарнаму, без асечкі.

– І я ні пры чым, – прагудзеў басам ствол. – У мяне ўсё прайшло гладка.

– Ну, а я, – прапішчала прыцэльная мушка, – сядзела ні жывая ні мёртвая. Баялася павархнуцца, каб цэліцца было добра...

– Ну што ж, – бразнуў затвор, – застаецца спытаць у кулі, а як паводзіла сябе яна?

А куля... на сход не з'явілася.

– Справа зразумелая, – падвёў вынік затвор. – Адчувае за сабой віну, таму і не прыйшла.







Малюнкі Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

## БАКСЁР





Два школьнікі
Паўз парк ідуць
І жвава
Гутарку вядуць.
Мікола кажа:
— Бацька
Любіць паўтараць,
Што лепей даць,
Чым атрымаць.
— А тата твой
Святар? —
Спытаў Ягор.
Збянтэжыўся Мікола:
— Не, баксёр...

**Міхаіл УЛАСЕНКА**

## Мімаходзь

Спартсмен Залівасцікаў быў пераможцам у бегу на далёкія дыстанцыі, пакуль не прайграў судовую справу з былой жонкай.

Стаць на канькі мала. Трэба пастарацца не ўпасці.

Спартсмен быў сціплым, таму плёўся ў хвасце.

Стаць балельшчыку спартсменам часта перашкаджае тэлевізар.

У каханні, як у шахматах: таксама бывае нічыя.

Няма вяршыняў, якія б не пакарыла фантазія спартсмена.




— Давай уявім, што мы з табой гуляем у шахматы.
— Давай. Пешка E2 – E4.
— Конь на H6.
— Конь F1 – D3.
— Ты што? Конь так не ходзіць! (Дае пстрычку ў лоб.)
— Ну вось, усе шахматы рассыпаў! Цяпер адзін гуляй!

☺ ☺ ☺

— Ты што зрабіў?! Ты ж у свае вароты мяч забіў!
— Не ўтрымаўся: такая зручная пазіцыя была для ўдару!..

☺ ☺ ☺

Горныя турысты — гэта людзі, якія шукаюць, як бы горш перазімаваць лета.

☺ ☺ ☺

— Не веру я ў жаночы футбол. Ну дзе знайсці адзінаццаць жанчын, якія пагодзяцца паказацца на публіцы аднолькава апранутымі?



Малюнак Пятра КОЗІЧА.

# Сямейныя ўсмешкі

## Дрэнна стараўся

Муж радасны прыходзіць з работы дадому:

– За старанную працу мне выдалі прэмію ў два месячныя заробкі!

Жонка незадаволена адказвае:

– Лайдак! Маглі б і ў тры, калі б лепей стараўся.



## І тайфун таксама...

Размаўляюць два мужчыны.

– Як думаеш, ці можа тайфун пакарыцца жанчыне?

– Можа, калі стане яе мужам...

## Адгаворка

П'яны муж позна вяртаецца дадому. Яго сустракае разлаваная жонка:

– Дзе бадзяўся, дзе накаўтаўся?

– З сябрам у бары пасядзеў.

– А губная памада на вуснах і сарочцы адкуль?

– Коўзка ісці было, дык падаў. Добра, што нейкія жанчыны падымалі. Вось і выпацкалі...

## Лепшая жанчына

– Якая жанчына лепшая? – уздыхае бабыль, які ніяк не можа зрабіць выбар.

– Тая, з якою не жыў, – усміхаецца жанаты сябар.

## Галоўнае – шыфер

Муж перакрываў на хаце дах. Але спатыкнуўся, зваліўся на зямлю і страціў прытомнасць.

Ачуняў ад таго, што жонка трасе яго за плячо.

– Хопіць мяне трэсці! – спыніў яе муж. – Лепш скажы, шыфер цэлы?



## Усюды пуста

Муж вярнуўся з палявання. Жонка пытае:

– Што ў рукзаку?

– Пуста, – уздыхае муж. – А што на вячэру?

– Тое, што і ў тваім рукзаку...



**Даслаў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*

## Анекдот

– Гэта праўда, што ты ўмееш гуляць у шахматы з заплюшчанымі вачамі?

– Праўда, але з табой гуляць не буду.

– Чаму?

– Прайграваць надакучыла.




**– У гэтай каманды няма шансаў на перамогу. Яны пакінуць тут усе свае сілы...**

Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Сяргея ВОЛКАВА,
тэма Міколы НАВАРЫЧА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Афарызм**

*Калі хочаце мець поспех, вы павінны выглядаць так, як быццам яго маеце.*

Томас Мор
(англійскі пісьменнік, філосаф)






# НЕ ПЭПІ, АЛЕ ЛЮБІЦЬ «ХЭПІ»

*«Неўтаймаваная дзяўчына, якая адным словам можа ўсіх развесяліць», «Добры чалавек і цудоўны сябар», «Пазітыўная і ўсмешлівая», «Ніколі не сумуе»... Як думаеце, пра каго ўсе гэтыя словы? Хтосьці, магчыма, успомніў Пэпі Доўгуюпанчоху, але на самай справе так характарызуюць вожыкаўскую дэбютантку Карыну ПАЦКО яе шматлікія сябры. А яны ведаюць, пра што кажуць!*

*Пасля заканчэння школы дзяўчына ўсур'ёз задумалася: у якую ж ВНУ накіраваць свае модныя чаравічкі на абцасах? Узважыўшы ўсе «за» і «супраць», Карына стала студэнткай Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, дзе чацвёрты год набывае грунтоўныя веды па спецыяльнасці «Беларуская мова і літаратура. Журналістыка».*

*Калі К. Пацко пачала маляваць, яна і сама дакладна не памятае, бо захапілася выяўленчым мастацтвам яшчэ ў маленстве. Відаць, спрацавалі гены: бацька дзяўчыны – прафесійны мастак. Аднак Карына заўсёды лічыла маляванне адным са сваіх хобі. Між тым, нам, вожыкаўцам, яе малюнкі падаліся цікавымі і для больш шырокай аўдыторыі.*

*У нашай дэбютанткі багата і іншых талентаў: дзяўчына ўмее спяваць, іграць на фартэпіяна (скончыла дзіцячую школу мастацтваў), таксама вельмі любіць чытаць, піша вершы і выступае ў дуэце «Каралесь» разам з сябрам па творчасці Алесем Мойскім. А яшчэ Карына – удзельніца народнага літаратурнага тэатра «Жывое слова», які дзейнічае пры БДПУ.*

*Словам, вітаем гэтага таленавітага маладога аўтара, які ўмее ўсміхацца і радаваць іншых.*


















# Эпіграмы

## Павел САКОВІЧ

### Сяргей Давідовіч

У СПБ мастак ён першы –
Адзіны нават! – сярод нас.
А ў мастакоў паэтам лепшым
Напэўна лічыцца ўвесь час.



Хоць і пажыў Сяргей нямала,
Дасюль вагаецца: кім стаць?
Вось мужыку пашанцавала:
Ў чарзе ўсе музы...
да яго стаяць!
Тут ёсць з чаго расхваляваццa:
Якой жа з іх яму... аддацца?

## Віктар КУНЦЭВІЧ

### Васіль Рагаўцоў



А вы знаёмы
З Рагаўцовым?
Выдатнейшы рыбак.
Заместа рыбак
Ловіць словы.
Спытаецеся, як?
Закіне думку,
Быццам вуду –
І слоўкі да яе
Плывуць
Вокаімгненна і марудна...
Я чуў, іх рыфмамі
Завуць!
А колькі дзіўных,
Рэдкіх слоў,
Бліщчаць што пазалотай,
Зловіў прафесар
Рагаўцоў –
І ўсё адзін, употай.

## Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

### Павел Саковіч

*(аўтар зборніка «Дуплетам... па паэтах»)*

Матае ён усё на вус
Пра наш пісьменніцкі хаўрус.
А потым твор (то бух, то грук)
Як эпіграму здасць у друк.

А што, як кожны з тых паэтаў,
Заклаўшы соль, пальне дуплетам?
Паўлюк пры гэткім «артнападзе»
За стол пісьмовы век не сядзе!










Малюнкі Тамары РАДАВАНАВІЧ.

А ТЫ ЗАПІСАЎСЯ



Ў ПАЭТЫ?

Малюнак Сяргея ВОЛКАВА.

**Алесь КОЗЕЛ**

# Свістун

## Быль

Ёсць такія людзі, якія амаль да ўсяго на свеце ставяцца лёгка, быццам несур'ёзна. Яны сустракаюцца ў кожным вялікім калектыве. У сваёй прафесійнай справе значных вяршынь не бяруць, трымаюцца дзесьці ў сярэдзіне. Але сябры і калегі такіх людзей любяць, бо з імі звычайна весела. Нездарма ж кажуць, што дзівакі ўпрыгожваюць жыццё.

Сваю мянушку Вацэк атрымаў даўно, яшчэ ў тыя часы, калі існавалі прафсаюзы і заўкамы і арганізоўваліся калектыўныя выезды на «маёўкі» ці ў грыбы. Вось і ў той раз заводскі аўтобус прывёз калектыў у лес.

...Раніца. Туман. Прыгажосць неверагодная. Цішыня. Яшчэ птушкі не прачнуліся. І росны лес. Разышліся. Але ж трымаліся адзін аднаго: месца незнаёмае.

Вацэк не адразу ўцяміў, чаго хлопцы пасмейваюцца. А потым заўважыў, што за ім цягнуцца дзіўныя сляды з пены. Што ён толькі ні рабіў! І абтрасаў кеды, і абстукваў аб дрэвы – усё дарэмна. Бурбалкі проста выскоквалі з мокрага абутку. Потым мужчына здагадаўся і пад ціхі рогат сяброў памыў кеды ў канаве. Відаць, жонка выпадкова насыпала ў іх (яны стаялі пад ваннай) пральнага парашку.

Толькі ўсё ўладзіў, як убачыў, што хлопцы ціхенька скупіліся каля кустоў. Падкраўся і ён. І ўбачыў дзівоснае відовішча: на палянцы адпачываў статак ласёў. Ласіхі з ласянятамі ляжалі ў цэнтры, а на невялічкім узгорку, нібы на варце, стаяў лось. Такі велізарны, што Вацэк міжволі падумаў: бык.

І тут адзін з хлопцаў здзекліва прашаптаў яму на вуха:

– Ціха, ты, мыйдадзір! А то сваімі бурбалкамі ўвесь статак перапудзіш.

– Ай, ай, ай! – не менш з'едліва адказаў Вацэк. – От глядзіце, як я зараз іх.

І, нядоўга думаючы, выйшаў наперад і свіснуў. Ён чакаў, што ласі кінуцца наўцёкі. Кінуўся толькі адзін, той самы «бык», але не куды-небудзь, а проста на Вацэка...

Што было далей і як хто ратаваўся, хлопцы памятаюць дрэнна. Але калі праз паўгадзіны пачалі збірацца разам, то не хапала толькі двух – у тым ліку і Вацэка. Мужчыны доўга гукалі і лаяліся. А потым адзін заўважыў:

– Ну, не з'еў жа лось тых дурняў? Знойдуцца! – і плюнуў у канаву, на беразе якой яны стаялі.

І ў гэты момант адтуль паднялася ўся аблепленая цінай і глеем галава Вацэка. Высветлілася, што ён так ратаваўся, лежачы ў вадзе і выставіўшы толькі нос.

Не паспеў калектыў прыйсці ў сябе, як пачуўся стогн, прычым зверху. І не адразу, мала-памалу ўсе нарэшце ўбачылі апошняга персанажа. Гэты грузны чалавек, што меў мноства ўсялякіх хвароб, узлез на танюткую хваіну і там павольна гойдаўся, не маючы сілы злезці. У яго, як кажуць, заклініла шарнір: схапіў радыкуліт...

Пазней, калі хворага знялі і, змайстраваўшы насілкі, неслі да аўтобуса, Вацэк плёўся ззаду. Ён раз-пораз баязліва ўціскаў галаву ў плечы, чуючы, як яго калега скрыгатаў зубамі ды гучна шаптаў: «Я табе свісну, свістун пракляты! Так свісну – не ўстанеш! Дай толькі паправіцца!..»









Малюнкі Алега ПАПОВА.




Малюнак Аляксандра ЦІХАНАВА.

**Анатоль ЦЫРКУНОЎ**




## Не казка

Былі у бацькі тры сыны,
Ды дурнямі раслі яны.
У чым, спытаеце, няўвязка?
У тым, што гэта факт,
не казка.



## Праверка на дзівацтва

Не той дзівак, які прабіць
Ілбом сцяну стараецца,
А той, хто побач з ім стаіць,
Дапамагчы збіраецца.



*г. Мінск.*






Як курэй ні кармі, а гусінае яйка не знясуць.
Як ні кляні холад, а цяплей не стане.
Як ні злуйся на суседа, а жыць побач трэба.
Як ні вытрасай кішэні, а калі пустыя, то грошы не выпадуць.
Як ні імкніся на Парнас, а без таленту не ўзыдзеш.
Як ні хвалі ваду, а малаком не стане.
Як ні старайся, а без малатка і цвіка жэрдку не прыб'еш.
Як ні хвалі крывыя калёсы, а роўна не паедуць.
Як з гадамі ні маладзі сябе, а старасць усё роўна выдае.
Як ні хвалі ката, а ганчака не заменіць.



**Заўважыў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




## ЦМОКІ, ЦМОКІ...



Які момант цудоўны!
Вось табе мае шчокі.
Лёгка вуснамі поўнымі
Ты цалуй — цмокі, цмокі...

Ледзьве не звар'яцею
Ад жаданай пяшчоты.
Нездарма я з надзеяй
Адпрасіўся з работы.

Так, дурны, хваляваўся...
«Час сустрэчы далёкі», —
Думаў я — і злаваўся,
Бо хацеў цмокі-цмокі.

Вось, нарэшце, збылося:
Мы з табой — у «Чэрокі».
І разоў сорак восем
Я цябе — цмокі, цмокі.

А машына ляцела...
Добра, шлях быў шырокі.
І ты прагна хацела
Усё больш — цмокі, цмокі...

...Сон цудоўны, халера,
Аніяк не канчаўся.
Так заслініў шпалеры —
Са сцяной цалаваўся!..

**Станіслаў КУРЫЛА,**
*Астравецкі раён,*
*в. Варняны.*






Малюнак Сяргея ВОЛКАВА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.

## Карысныя парады

Калі хочаш добра жыць,
Выбірай, што будзеш піць:
Ці ваду, кефір, крэм-соду,
Ці напой другога роду —
Той, што дурыць галаву,
Той, што цягне у дрыгву...
Лепш не мець такой ахвоты —
Цяжка выбрацца з балота!



* * *

Калі шчасце хочаш мець,
Трэба ў чарку менш глядзець.
Можна кроплю ўзяць у свята,
Ды — не прапіваць зарплату!




* * *

Калі хочаш быць каханым,
Трэба менш хварэць «на пана».
Любяць тых, хто шмат працуе
І з гарэлкай не сябруе.

**Пётр ЗАЯЦ,**
*Стаўбцоўскі раён,*
*в. Рогавічы.*




АБЯРЭМАК — наркаман.
БУРБАЛКА — нафтавая вышка.
ГАРОТНЫ — гарласты камандзір.
ГРАМАФОН — водгалас грому.
ДУБЧЫК — зрэзанае дрэва.
КАНЮШЫНА — гума для павозкі.
КАПШУК — прафесійны следчы.
МАЛАДЗІЧКА — маленькая груша.
СЫРАЕЖКА — вегетарыянец.
ШЫПШЫНА — зімовая гума для аўтамабіля.



**Даслаў Мікола КІСЕЛЬ,**
*г. Мінск.*

# Усмешкі розных шырот

— Ну і дупло! Ну і дупло! Ну і дупло!

— Чаму вы паўтарылі гэту фразу тройчы? — пытаецца пацыент у зубнога доктара.

— Я сказаў толькі адзін раз. Два разы паўтарыла рэха.



* * *

Шатландзец гаворыць жонцы:

— З таго часу, як мы пачалі даваць нашаму Артуру за добрую адзнаку пені, ён прыносіць дахаты адныя пяцёркі!

— Відаць, дзеліцца выручкай з настаўнікам...

* * *

Датчаніна, які адпачываў летам у глухой вёсачцы, пачаставалі шнапсам свойскага вырабу. Ён выпіў чарку, збялеў, пазелянеў і, з цяжкасцю пераводзячы дыханне, спытаў:

— Колькі ж градусаў у гэтым зеллі?

— Наконт градусаў не ведаю, але адной бутэлькі хапае на дванаццаць боек і адно забойства.

* * *

Званок у паліцыю:

— Тэрмінова нарад на бульвар Капуцынаў, дом пяць, чацвёрты паверх, налева! Жонка б'е мужа чым папала, і той жудасна крычыць.

— Выклік прыняты. Нарад высылаем. А вы хто, сусед?

— Не. Я муж.





* * *

— Дарагі, ты будзеш вельмі задаволены мною: я тры разы праехала на чырвонае святло — і мяне ні разу не аштрафавалі. На сэканомленыя грошы я купіла сабе тры новыя капялюшыкі.

* * *

Пакупнік прыходзіць у зоамагазін і раздражнёна кажа прадаўцу:

— Калі я купляў папугая, вы запэўнілі мяне, што ён умее гаварыць, а той цэлы дзень маўчыць.

— У вас у доме ёсць жанчыны?

— Нават дзве.

— А-а... Тады паслухайце папугая ўночы.

* * *

Да асуджанага на смерць узломшчыка прыйшоў святар:

— Сын мой, паспавядайся ў грахах, каб дзверы рая не засталіся зачыненымі для цябе...

— Што? Ды няма такіх дзвярэй, якіх бы я не змог адчыніць!

* * *

— Калі вы перастанеце піць, я прызначу вас начальнікам аддзела.

— Не турбуйцеся. Калі я вып'ю, то ўяўляю сябе самім генеральным дырэктарам.

* * *

— Што з табой, чаму ты такі злосны?

— Толькі што пазваніў новы муж маёй былой жонкі і закаціў істэрыку, чаму я за тры гады не навучыў яе варыць суп з фрыкадэлькамі!



* * *

У паліцэйскім участку звоніць тэлефон.

— На дапамогу, на дапамогу! — чуецца ў трубцы. — На дапамогу!

— Зараз выязджаем! — гаворыць інспектар. — Але што здарылася?

— У пакой уварвалася котка!

— Прабачце, мсье, але з-за такіх дробязей паліцыю не выклікаюць. Хто вы?

— Як гэта хто? Папугай, канечне!



Малюнкі з часопіса «Урзіка» (Румынія).




Уладзімір МАЗГО

# Тузін Васевых прыгод, паяднаў якія спорт



*Працяг. Пачатак у № 3 за 2014 год.*

## 5. Нечаканы паварот

Мы гуляем у футбол
І забіць спяшаем гол.

Пот бы змыць ля ручая,
Ды пакуль што – нічыя.

На табло гараць нулі.
Раптам – Вася на зямлі.

Нечаканы паварот:
Збілі Васю ля варот.

Зарабіў пенальці ён –
Гол забіў, як чэмпіён.

Аднагодак наш, але
Так гуляе, як Пеле.

## 6. Перамог страх

Вася на веласіпедзе
Да сяброўкі ў вёску едзе.

Там канікулы праводзіць
Васілінка на прыродзе.

Націскае на педалі –
Набліжае хлопчык далі.

Каля трасы, у кустах,
Напалохаў Васю страх.

Ды Васіль не разгубіўся,
На дарозе не спыніўся.

Васілінка рада: «Ах!
Перамог наш Вася страх».

## 7. На дачы

Пакрысе спякотным летам
Вася стаў цяжкаатлетам.

З ручая ваду на дачу
Ён цягаў і не лайдачыў.

Васілінка ля варот
Палівала агарод.

Два вядры з вадой, як штанга,
Закружылі Васю ў танга.

Не ўтрымаў хлапчук ваду –
І прыняў халодны «душ».

Засмяяўся Вася ўсё ж:
– Я цяпер, напэўна, морж!

## 8. Турзлёт

Лета – гэта час прыгод.
У паход пазваў турзлёт.

Вася ў лесе напачатку
Лепш за ўсіх сабраў палатку.

Васілінка не адстала –
Першай вогнішча расклала.

Раптам грымнула каманда:
– Перацягванне каната!..

Вася так цягнуў, стараўся,
Што канат той – разарваўся.

І са смехам сябрукі
Разляцеліся ў бакі.

*Працяг у наступным нумары.*



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Ларыса ГЛЕБ**

## Мініяцюры

У мяне прапаў каток.
І чаго Пушок уцёк?
Стрыгла вусы я яму,
Малявала бараду...



* * *

Я люблю гуляць з сябрамі,
На заняткі не пайду.
Ну, і хатнія заданні
Лепш на заўтра адкладу.



* * *

Шмат я сёння спраў зрабіла:
Брата ў лужыне памыла,
Хутка тату на абед
Напякла з пяску катлет.



*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*




### Пазычыў



Настаўніца Анжэла Іванаўна на ўроку матэматыкі робіць заўвагу вучню:

– Вадзік, ты чаго назад павярнуўся? Сядзь роўна!

Хлопчык пакрыўджана тлумачыць:

– Я пальцы ў Ігара пазычаў, бо сваіх, каб падлічыць адказ, не хапіла.

### Каб не забылася



У настаўніцы Вольгі Паўлаўны дзень нараджэння. Другакласнік Ілья павіншаваў яе ад імя ўсяго класа і сеў за парту. Затым, нешта ўспомніўшы, моцна затрос рукою.

Настаўніца пытаецца:

– Ты штосьці забыў сказаць?

Хлопчык устае і дадае:

– І яшчэ каб у вас быў вялікі торт і вы ім пачаставалі ўсіх нас.

### Дзе вітаміны?




У школьнай сталовай першакласнікі не хацелі есці квашаную капусту, якую часта давалі ў час абеду да гарніру.

Настаўніца Алена Мікалаеўна растлумачыла, што капусту абавязкова трэба есці, бо ў ёй шмат вітамінаў. Дзеці паелі і пайшлі ў клас. Толькі Петрык застаўся за сталом над талеркай і ўважліва разглядаў капусту.

– Ты чаго так доўга? – спытала настаўніца.

– Вітаміны шукаю. Але чамусьці ніводнага не знайшоў, – уздыхнуў хлопчык.

### Праверкі няма!



У сельскай школе чакалі праверку з раёна. Настаўніца Іна Пятроўна папярэдзіла маленькіх вучняў, каб яны паводзілі сябе спакойна на перапынку і не шумелі. Сама засталася ў класе, каб падрыхтаваць дошку да наступнага ўрока.

Раптам дзеці забягаюць у клас. Толік з парога крычыць:

– Праверкі няма! Затое сюды ідуць два дзядзькі з партфелямі!..

**Даслала**
**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ,**
*г. Клецк.*

Ірына КАРАЧУН




Пакуль Антось увішна на дзялянцы
Касіў траву, пад'еўшы ранкам добра,
Яго Марыля, седзячы на лаўцы,
Суседцы скардзілася на свае хваробы.

— Бяда: спіну скруціў радыкуліт,
Пячонка ные, галава баліць.
І гэты, як яго... А, цэлюліт!
Даймае, не дае спакойна жыць...

Прыйшоў Антось на лаўку адпачыць,
Пачуў, пра што вядзецца тут гаворка.
— Твой цэлюліт няцяжка палячыць.
Народны сродак — граблі і рыдлёўка!

*г. Баранавічы.*




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## ДЫЯЛОГІ І МАНАЛОГІ

### ШАКАЛАДКА — ГЭТА КАРЫСНА

Вопытная дачніца Кацярына разважае:

— Шакалад здабываюць з какава-бабоў, бабы — гародніна. Цукар здабываюць з цукровага бурака, бурак — гародніна. Такім чынам, шакаладка таксама гародніна, а гародніна карысная для здароўя.

### ШТО ЎЗНІМАЕ НАСТРОЙ

Размаўляюць вяскоўцы.

— Швейцарскія навукоўцы высветлілі, што шакалад узнімае настрой.

— Яны, напэўна, проста самагонку не спрабавалі!

### НЕ РАЎНАЦЭННА!

— Не разумею я гэтыя сушы-рэстараны! Ну як можа рыс, загорнуты ў рыбу, да таго ж у сырую, каштаваць больш, чым сала, загорнутае ў газету, ды да таго ж — свежую?!

### НА СЯРЭДЗІНЕ ПАТЭЛЬНІ

Дачніца распавядае:

— Смажыла неяк кабачкі з грыбамі. Вырашыла паспытаць, ці не перасаліла. Апамяталася на сярэдзіне патэльні. Было так сорамна! І смачна!..



**Даслаў Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**

**«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс**

№ 4 (1507), 2014 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
*Часопіс «Вожык» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэгістрацыйны № 520.*

Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.



**Рэдакцыя:**
Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*.

*Рэдактар стылістычны* Марыя ГІЛЕВІЧ.
*Камп'ютарная вёрстка*
Святлана ТАРГОНСКАЯ.

**Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220005, г. Мінск,**
**праспект Незалежнасці, 39.**
**E-mail: a-vojik@yandex.ru**

***Тэлефоны:***
***галоўнага рэдактара — 288-24-62,***
***намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52,***
***бухгалтэрыі — 287-18-81,***
***факс — 284-84-61.***



Падпісана да друку 08.04.2014
Фармат 60x84 $^1/_8$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,46. Тыраж 1707 экз.
Заказ 937.

Кошт нумара ў розніцу 16 800 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск,
праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 3.04.2009.

# Дача з аддачай























*Пра дачу малявалі Алег ПАПОЎ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.*

# Народ кажа...




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.


## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844**,

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442**,

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**




**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2014 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 19400 руб.,
індэкс 01380, цана 15500 руб.,
індэкс 748442, цана 52700 руб.,
індэкс 01381, цана 41500 руб.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

